16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

1•2019
студзень

Лепшы сябар чалавека

Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.



# Малюе Пётр КОЗІЧ















**Яўген ХВАЛЕЙ**

# Сінічка і Верабей



*Байка*

Сустрэліся парой грамнічнай
Верабей з Сінічкай.
Апошняя казала Вераб'ю:
– Хутка я рэкорды ўсе паб'ю...
– У чым?
У чым? –
Чырыкаў Верабей.
– А вось я зараз і скажу:
У палётах... за мяжу...
Лячу я заўтра у Бамбей.
А там – Таіці і Мальдзівы,
Канары – рай ды дзіва!
А ты ў кустах адно сядзіш
І ад марозу ўвесь дрыжыш...
Хоць раз ды пахваліўся б ты:
Калі ў цябе быў дзень круты,
Куды лятаў і дзе ты быў?
Што еў з прысмакаў?
І што піў? –
Ці ад заморскага хмялеў віна?

Заела пташачкі мана,
Злосць узяла тут Вераб'я:
– Ты ж –
Непералётная, як я,
У выраі не быць зімой –
Наканавана лёсам нам з табой.
Канары нашы і Бамбей –
Там, дзе снег... –
Чырыкнуў Верабей.

***

Такія вось Сінічкі
Жывуць і між людзей –
Але
Не клюне на «мякіну» Верабей.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхаіл ШУЛЬГА.




І той, хто заўсёды стаіць на сваім, іншы раз павінен сесці. Хаця б на дыету.

За хлуснёй можна схаваць усё, акрамя праўды.

Для некаторых больш важны гогаль-могаль, чым Гогаль.

Бабіна лета ніколі не заменіць жаночага цяпла.

На адны і тыя ж граблі звычайна наступаюць адны і тыя ж людзі.

Ніхто чамусьці не робіцца здаравейшым ад доктарскай каўбасы.

Добра быць ад недалёкага чалавека як мага далей.

Мужу іншы раз даводзіцца пастаяць за сябе, каб паляжаць на канапе.

Хто часта гнецца, той падае ў вачах іншых.

Дрэнна, калі зла не хапае. Але горш, калі і дабра няма.

Чым разумнейшы чалавек, тым больш заўважнае зробленае ім глупства.

Нельга акунуцца з галавой у работу, калі яна табе не па плячы.

Адным хлебам сыты не будзеш, калі побач ікра.

Праўда коле вочы, а хлусня – прытупляе зрок.

Дурняў, якіх мала, на жаль, многа.

Пуцёўка ў жыццё даецца не для адпачынку.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*






Шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

*На айчынным гумарыстычным Алімпе постаць паэта, перакладчыка, навукоўца-філолага і выкладчыка Міколы (Мікалая Віктаравіча) ШАБОВІЧА прыкметна выдзяляецца сярод іншых. Сапраўдны мэтр беларускай пародыі, ён умее дасціпна, трапна, незласліва пасмяяцца з твораў калег па пяры — ды так, што яго гумарыстычная інтэрпрэтацыя чытаецца не горш за арыгінал! Сакрэт паэтычнага майстэрства заключаецца ў гарманічным спалучэнні таленту пісьменніка і яго прафесійных навыкаў — як-ніяк, Мікола Віктаравіч па адукацыі лінгвіст, кандыдат філалагічных навук, а зараз працуе на пасадзе дацэнта кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.*

*Сур'ёўнае і жартоўнае на дзіва лёгка суіснуе і ў асобе паэта, і ў яго творчасці, якая прадстаўлена як лірычнымі кнігамі («Яшчэ пакуль не лістапад» (1996), «Падары мне сваю адзіноту» (2002), «Мая надзея» (2006)), так і гумарыстычнымі зборнікамі («Хор болей не спявае: пародыі, эпіграмы, прысвячэнні» (2008), «Прыколы ад Міколы» (2015) і інш.). Кніга «Хор болей не спявае» адзначана ў 2009 г. рэспубліканскай літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон» як лепшае выданне 2008 года ў намінацыі «Сатыра і гумар».*

*Ад усёй душы віншуем нашага пастаяннага аўтара, шчырага сябра з цудоўнай датай — 60-годдзем, якое ён адзначыў 4 студзеня, і жадаем далейшага плёну ў творчай працы, аптымізму, радасці ў кожным дні.*

## Мікола ШАБОВІЧ

### Прыгавор



Змрочна-пуста
Сёння ў душы маёй.
Можа, трамвай
Светлай апошняй надзеяй
Раптам блісне.

*Дзмітрый ПЯТРОВІЧ*

Сёння ў душы тваёй, можа,
трамвай,
Можа, тралейбус, маршрутка...
Так што, Пятровіч, спявай
не спявай —
Класікам станеш не хутка!

### Песні Міколы Мятліцкага

Дзе ні ступіш ты, чуеш
Толькі песню маю.

*Мікола МЯТЛІЦКІ*

Не Ханок, не Зарыцкі,
Не салоўка ў кустах —
То Мікола Мятліцкі
Так пяе — проста ах!

А зайздроснікі ўколюць:
«Ты людзей не смяшы!
Ой, Мікола, Мікола!
Лепей вершы пішы!»

### Няма дурных!

Я помню час, калі Ваш твар збялеў,
І дотык рук дрыготкіх у адчаі.
Вы абяцалі слодыч мне, але...
Аб тым, што з гаркатою, прамаўчалі.

*Людміла ПАЎЛІКАВА*

Калісь я легкавернаю была,
Бо думала: мой лёс да Вас прыкуты.
Я Вам такога мёду падала,
А Вы мне зноў падсунулі цыкуты.

Мо вып'ем разам? Што ж Вы, любы мой?!
І твар збялеў, і дрыжыкі па целе.
Хацелі Вы расправіцца са мной,
А мне, аднак, яшчэ пажыць карцела.



Лічылі, што адзін Вы аксакал,
А іншыя — дурныя ўсе дарэшты.
Дык напалову дзелім мой бакал,
А там — ці рай, ці хоць другое нешта!






Шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

*«Ніколі не позна заняцца справай, да якой ляжыць душа», — нібы гаворыць сваёй біяграфіяй пісьменніца Лёля БАГДАНОВІЧ (Лёля Уладзіміраўна Мартыненка). У мінулым лабарант хлебапякарнай вытворчасці, сёння яна цалкам аддае сябе літаратурнай дзейнасці — і робіць гэта з уласцівай ёй шчырасцю і пранікнёнасцю. У творчай скарбонцы пісьменніцы два паэтычныя зборнікі — «Зорны кошык» (2013) і «Вясёлкавы масток» (2015), а таксама шэраг казак для дзяцей, лірычных і гумарыстычных вершаў, тэкстаў песень. Акрамя таго, у родным Барысаве яна ўжо шмат гадоў узначальвае літаб'яднанне «Натхненне».*

*Кожны візіт пісьменніцы ў нашу рэдакцыю, кожны яе электронны ліст — гэта радасць, усмешка, песня. Шчыра віншуем Лёлю Уладзіміраўну з 70-годдзем і жадаем не згубіць гэтага зайздроснага жыццялюбства, невычэрпнага аптымізму і творчага натхнення.*

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Настальгія з усмешкай

Прыдумаў хтосьці нездарма,
Што добра там, дзе нас няма.
У тых мясцінах ілюзорных
І вечароў паболей зорных,
Птушыны спеў там адмысловы,
Там не пачуеш злога слова —
Усюды лад і разуменне.
У крамах таннае адзенне,
Прадуктаў розных — не злічыць!
Ды мне мілей чамусьці жыць
Сярод знаёмых хат і вуліц,
Дзе вышываную кашулю
Насіў, як модны брэнд, калісьці,
Хлеб смакаваў з дубовым лісцем,
Нішчымную ўплятаў капусту,
А на дэсерт браў хлеба лусту
Ды густа цукрам пасыпаў,
Вадою зверху паліваў.
Прысмак сучасны не дакажа —
Вам кожны мой равеснік скажа!..
Мо хтосьці з маладых палічыць
Мой верш занадта настальгічным.
А я не буду крыўдаваць,
Бо што хацелася сказаць:
«Хай будзе добра тут, не недзе
Нам, нашым родным і суседзям!»

## Каляднае

Чаканне дзівосаў, сябры, падарункі,
Гірлянды гарац, зіхаціць мішура...
Дзяцінства ўспаміны гаючаю стрункай
Гуртом калядоўнікаў каля двара.

Расказвалі вершы і песні спявалі,
Вадзілі «казу» і «мядзведзя» з сабой.
Суседзі, што мелі, у мех наш кідалі —
Гарбузікі, печыва, добры настрой.

Няхай і жылі мы тады небагата
Ды кожнай капеечцы ведалі кошт, —
Збірала сям'ю навагоднее свята,
Сталы ад прысмакаў ламаліся ўсё ж.

Старэйшым увага была, і пашана,
І першае слова, і першы глыток...
Я ў свята тых дзён назаўжды закахана,
Успомніла раптам усё незнарок...

Напоўніўшы пеністым келіх шампанскім,
Хачу за традыцыі нашы падняць.
Здароўя і міру, кахання і шчасця,
Дабротаў усім на зямлі пажадаць!

**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Дапытлівая змена

### Жыццё

Бавіцца Дзяцінства,
Нешта ўсё выгадвае,
І на гэта Сталасць
Пазірае з кпінамі.
Маладосць пра Старасць
Нават і не згадвае,
Старасць у Юнацтва
Лезе з успамінамі.

### Надзеі

Розныя, людцы,
Бываюць падзеі...
Ды і хто супраць?
Усе з тым згаджаюцца.
Кепска,
Калі паміраюць надзеі,
Горай, калі нават
Не нараджаюцца!..

### Лабірынт




У лабірынце
Заблукаў
І доўга выхад
Там шукаў.
Не здагадаецца
Фядот,
Што выхад –
Той жа ўваход!..

### Ісціна і сінякі

– Кажуць людзі:
Як хто дзе спрачаецца –
Нібы ісціна там
Нараджаецца.
Мы ж вось з сябрам
У спрэчцы счапіліся –
Дык у нас
Сінякі нарадзіліся!

### Хваробы для лекаў



Ідзе Міхась
Каля аптэкі
І разабрацца
Робіць спробу:
– Усюды лекі,
Лекі, лекі!..
Няўжо для кожных
Ёсць хвароба?..

### Хто на кабыле?

– Адкажы нам, дзядзька,
Не змані, –
Неяк мяне дзеці
Абступілі, –
Коннік – гэта той,
Хто на кані.
А як зваць таго,
Хто на кабыле?..

*г. Віцебск.*

## Мастацтва і мода






Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА х 2.







Анастасія СКАРКО х 2.



Алег КАРПОВІЧ.

## Філалагічныя замалёўкі

Хлопец нетаропка ўстаў з ложка і выканаў стандартны набор ранішніх дзеянняў.

Па паверсе праносіліся знаёмыя галасы.

Увайшоўшы, Анатоль адчуў пах, які пацвярджаў атмасферу агульнай радасці.

Алесь праваліўся ў цяжкі сон без сноў.

Прыемна было знаходзіцца на адлегласці ад шумнага горада, вяртаючыся туды толькі па вялікай патрэбе.

Усе падняліся і пайшлі, імкнучыся на дарозе стварыць чаргу.

Аксана заціснула Рамана ў абдымках.

**Уважліва чытаў перыёдыку**
**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ,**
*г. Мінск.*




# «Паломнікі» да помніка

*Фельетон*

Людзе вельмі падабаліся мужчыны ў форме. Такія статныя, строгія, з выпраўкай... Ёй здавалася, што за імі, як за каменнай сцяной. Марыла пра ідэальнага мужа, але рыцара пакуль знайсці не магла.

Ідучы на працу, Люда штодзень сустракала мінскага гарадавога. Дакладней, яго помнік. Жанчына не магла адвесці вачэй ад сур'ёзнага мужчыны з акуратнай барадой і вусамі, побач з якім сядзеў маленькі мілы сабачка. «Вось каб да мяне такі ж кавалер заляцацца пачаў!» — прагаворвала яна ў думках і сарамліва адводзіла вочы ад скульптуры. Побач з помнікам часта стаялі стражы парадку, некаторыя мужчыны з цікаўнасцю паглядалі на Люду, але знаёміцца не адважваліся: на службе як-ніяк.

І вось аднойчы жанчына прачытала навіну, што нейкі падлетак, каб выхваліцца невядома перад кім, падбег да Мінскага гарадавога і ўдарыў далонню па твары. Праўда, усё гэта бачыў міліцыянер і затрымаў хулігана.

— Быў бы гэта не помнік, а сапраўдны мужчына, ёлуп бы нават зірнуць на яго пабаяўся. А тут асілкам сябе адчуў. Надзерці вушы яму б! — дзялілася Люда сваімі ўражаннямі з калегай Светай.

Калі ж падлетак папрасіў прабачэння перад Мінскім гарадавым і ўсімі, каго абразіў яго ўчынак, сэрца жанчыны адтаяла. Маўляў, хто ў маладосці дурасці не робіць.

Але праз некаторы час да яе ідэала мужчыны зноў праявілі ўвагу. На гэты раз адзін студэнт вырашыў павязаць скульптуры шалік, сагрэць гарадавога. Хлопца затрымалі міліцыянеры, патлумачылі, што нельга вешаць на помнік староннія рэчы, і адпусцілі.

— Вось недарэка! Не ведае, што ў служачых ёсць свой устаў наконт формы. Нельга ім шалікі рознакаляровыя чапляць. Цяпер запомніць: сапраўдны мужчына мужна пераносіць любы холад, — каментавала навіну Люда.

Наступная гісторыя падняла жанчыне нервы так, што давялося піць сардэчныя кроплі.

— Людачка, ты што? Можа хуткую дапамогу выклікаць? — хвалявалася Света.

– Не трэба, – уздыхала жанчына. – Я ўсё блізка да сэрца ўспрымаю... Сёння да майго гарадавога нейкія дурні паставілі вянок, які звычайна на пахаванне прыносяць, з подпісам «Іміджу МУС». Як так можна? Што ён ім зрабіў? Гэта ж помнік!

Супакоілася Люда толькі праз некалькі дзён, калі даведалася, што хуліганаў знайшлі, затрымалі і абавязалі выплаціць штраф.

– Вось вам навука! Будзеце ведаць, як майго гарадавога зневажаць, – радавалася жанчына.

Неяк яна вярталася з працы разам са Светай. Калі праходзілі каля помніка, Люда прапанавала:

– А сфатаграфуй мяне разам з гарадавым. Я на застаўку тэлефона пастаўлю, буду любавацца.

Калега згадзілася. Жанчына падышла і шчыра пацалавала гарадавога ў шчаку. Якраз у гэты момант да іх наблізіўся міліцыянер.

– Добры вечар, паважаныя. Не маглі б вы не цалаваць помнік? У апошні час многія праяўляюць да яго занадта шмат увагі. А ўсё ж гэта скульптура – своеасаблівы твар усіх супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Калі хочаце, то сфатаграфуйцеся, але без лішняй ласкі. Гарадавы ж на службе, – папрасіў той.

– Ой, прабачце, не ўтрымалася! Такі прыгожы мужчына. Больш не буду, абяцаю, – пачала апраўдвацца Люда, а потым схапіла пад руку калегу і пацягнула прэч ад міліцыянера.

Некаторы час жанчыны ішлі моўчкі. Нарэшце Света не вытрымала:

– Ты зусім ужо звар'яцела са сваімі марамі пра мужчыну ў форме! У суботу прыйдзеш да мяне ў госці. Я скажу мужу, каб прывёў свайго аднакласніка, ваеннага, буду вас знаёміць. Той таксама сабе жанчыну шукае, якая будзе за яго гарой стаяць.

– Ой, дзякуй табе! Абавязкова прыйду. Чаго ж ты раней маўчала пра знаёмага ваеннага? – ледзьве не скакала ад шчасця Люда.

Света толькі засмяялася. Што ні зробіш, каб выканаць мару сяброўкі...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



# Жонкі




Алег ГУЦОЛ.



Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

## Кулінарная парада

Ля нявесткі-маладзіцы
І свякрусе не сядзіцца.
Зноў на кухні сварацца.
– Эх, не варта вам сварыцца,
Калі крупнік варыцца, –
Павучае дзед Антось, –
Каб не елі людзі злосць!

## Колькі бабак?

Вось вячэра і гатова!
Пачалася ў нас размова,
Як дастала баба Гапка
Чыгунок з духмянай бабкай.
Узгадаў унучак Коля:
– Летам бачыў бабкі ў полі.
А парою ранняй, роснай
Чуў, на іх кляпаюць косы?
– Праўда, – дзед сказаў. – Увосень
Жонка вельмі бабак просіць.
Ў лес хутчэй бягу тады –
Даспадобы суп грыбны!
Бабка ж наша – баба Гапка –
Просіць частавацца бабкай.

*г. Жабінка.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

**Малюе Аляксандр ПЯТРОЎ**

## Пастэлі на пас-це-лі













*Сёлета спаўняецца 95 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка, славутага гумарыста, таленавітага журналіста Васіля Фаміча Маеўскага (1924–2013). Шырокаму колу чытачоў ён знаёмы як Базыль Хізавец – менавіта пад такім псеўданімам на старонках «Вожыка» выходзілі яго шматлікія фельетоны, памфлеты, байкі, вершы эпіграмы... З часопісам быў цесна звязаны прафесійны шлях творцы: у 1973–1984 гадах Васіль Фаміч працаваў адказным сакратаром нашага выдання.*

*Пісьменнік пражыў няпростае, але цікавае і насычанае жыццё. Вучоба ў педвучылішчы, гады партызанства, журналісцкая практыка з бясконцымі паездкамі, камандзіроўкамі... Набытыя ўражанні і вопыт дзякуючы бясспрэчнаму сатырычнаму дару знайшлі адлюстраванне ў шматлікіх творах. Першы зборнік пад назваю «На чыстую ваду» выйшаў у «Бібліятэцы «Вожыка» ў 1962 годзе. Потым былі кнігі «Розум у партфелі» (1969), «Багаты ўлоў» (1973), «Прамой наводкай» (1974), «Кавалі смерці» (1983).*

*Творы Васіля Фаміча, старэйшага вожыкаўца, і сёння гучаць актуальна, свежа і востра.*




Сяброўскі шарж Зіновія ПАЎЛОЎСКАГА, 1962 г.

**Васіль МАЕЎСКІ**

## Факт і акт

Прынялі дом. І склалі акт.
І за сталы заселі,
Каб гэты традыцыйны факт
Спіртным засведчыць зеллем.

Пілі за новы светлы гмах,
За ўвод датэрміновы,
За дзелавітасць і размах,
За перамогу, словам...

Гудзеў да раніцы банкет,
Пілі – за што папала:
За столь, балконы і паркет,
За дзверы і падвалы,
За калідоры і замкі,
За плінтусы, паліцы,
Нат за шурупы і цвікі
І іншыя драбніцы.

А раніцой – перапалох
(Набраліся ўсе жаху):
– І хто б падумаць толькі мог –
Дом здадзены без... даху!

*«Багаты ўлоў», Мн., 1973 г.*

## Мопсік

Памочнікам начальніка ўстановы
Амаль паўвека Мопсік праслужыў.
Каго ні перажыў
Служака адмысловы:
Слана, Зубра, Ваўка, Лісіцу –
Усіх начальнікаў нат цяжка й далічыцца,
І кожны з іх не мог ім нахваліцца:
– Вось да работы здатны!..
– Які спагадлівы, разумны, далікатны!
– Не скажа абы-як...
Пра Мопсікаву «дабрату» Бяляк
Прачуў зімоваю часінай,
І з храбрасцю сваёй зайчынай
Ён у прыёмную аднойчы завітаў.
– Зрабіце, каб таварыш Леў
Мяне хоць на хвілiначку прыняў, –
Бяляк прамовіў, стаўшы у парозе.
– Ты да начальніка?! Занадта асмялеў! –
Наш Мопсік загырчэў ад злосці,
І толькі ўбачыў: на дарозе
Маланкай мільгануў кароткі хвосцік –
Адрокся ад прыёму Зайка...
На гэтым можна б і закончыць байку,
Тых закляйміўшы у маралі,
Хто Мопсіку хвалу такую пеў,
Ды сёння мне сказалі:
З пасады звольнен Леў
І ўжо Бяляк – начальнік установы.
А Мопсік дзе? Служака адмысловы,
Цяпер таго ён ледзьве не лізаў,
Хто з страху ўчора хвосцік паказаў.

Такі гатоў хоць чорту паслужыць,
Абы самому ў цёплым месцы жыць.

*«На чыстую ваду», Мн., 1962 г.*



## Знарок не прыдумаеш

«На жаль, па віне жыхароў горада катоў і сабак з'яўляецца ўсё больш і больш».

«Занятыя на сяўбе механізатары ў шэсць гадзін раніцы ўжо на мехдвары: аглядаюць тэхніку, атрымліваюць указанні галоўнага агранома, запраўляюцца палівам – і на палі».

*(З газет.)*

**Выпісаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

«Прадаю кватэру з усімі выгодамі, акрамя вады і туалета».

*(З аб'явы.)*

«Аркадзь – на ўсе рукі майстар. Тройчы ў турме сядзеў і чатыры разы жаніўся».

*(З размовы.)*

«Купляйце нашу капусту! Яна самая смачная. Яе нават казлы ядуць».

*(З закліку прадаўца на кірмашы.)*

«Я страляў па зайцу, а лось са спуду разбіў галаву аб дуб. І я не мог утрымацца, каб не падысці і не паглядзець на яго».

*(З тлумачэння браканьера.)*

«На што скарджуся? Каб ведаў, то чаго б прыйшоў да вас? Вам лепш відаць».

*(З размовы хворага з урачом.)*

«У нашых кароў кароткія языкі. Яны не могуць увесь корм даставаць з ясляў. Таму і нізкія надоі».

*(З выступлення заатэхніка на сходзе.)*

**Пачуў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




**Нічыпар ШЭРАНЬКІ**

### Упакоўка

Дзейнічае вельмі лоўка
На прадуктах упакоўка.
Зыркая, квятастая,
Па кішэнях шастае.



### Сучасны дзед

За камп'ютар дзед засеў,
А круціў век гайкі.
Прагавіта бюстам дзеў
Выстаўляе лайкі.

### Парада

Старайся паменей
На старасці есці.
Падумай пра тых,
Хто цябе будзе несці.

### Скарга вужа

– Ох і страшна жыць вужу!
Дзе паўзу – увесь дрыжу:
Шэльміна двухрукая
Думае: гадзюка я!



### Шлюб і жыццялюб

Ажаніўся ён, сівы,
З маладой кабетаю.
Не выходзіць з галавы:
«Эх! Ці пералетую?..»

### Перасцярога

Як да дзяўчат ты, хлопец, падкі
І на прыродзе быць прывык,
Дык не кладзіся на лапаткі –
Паўсюль пякучы баршчавік.






*Свой літаратурны шлях вядомы пісьменнік Іван Кірэевіч СЯРКОЎ (1929–1998) пачаў з вершаваных гумарэсак і кароткіх гумарыстычных апавяданняў, якія друкаваліся на старонках нашага часопіса. Творца любіў і ўмеў жартаваць не толькі ў жыцці, але і ў літаратуры. Яго знакамітая трылогія, якая складаецца з аповесцей «Мы з Санькам у тыле ворага», «Мы – хлопцы жывучыя» і «Мы з Санькам – артылерысты...», стала сапраўднай класікай дзіцячай літаратуры. Зрэшты, гэтыя творы з задавальненнем чытаюць і дарослыя: дасціпная ўсмешка аўтара, тонкі гумар, жывая, сакавітая мова робяць іх, можна сказаць, пазаўзроставымі. Пераконваць у гэтым вас не трэба: кожны хацяб у школе чытаў цікавыя, пераважна смешныя, але часам і сумныя гісторыі пра двух хлапчукоў і іх жыццё ў ваенны час. Дзевяностагоддзе з дня нараджэння Івана Сяркова – добрая нагода, каб узгадаць і перачытаць гэтыя цудоўныя аповесці.*



**Іван СЯРКОЎ**

## Як нас падвёў кот

*(Урывак з аповесці «Мы з Санькам у тыле ворага»)*

Аднойчы Коля Бурэц пахваліўся, што ў яго ёсць дзве гранаты. Мы з Санькам і прычапіліся да яго, як сляпы да плота: або дай, або прадай.

– А навошта в-в-вам? – хітра жмурыць Коля свае цыганскія вочы.

– Рыбу глушыць будзем, – выдумляю я.

– І-і-і я буду, – упіраецца Коля.

– Мы табе рагатку дадзім, – абяцае Санька.

Бурэц крыху падумаў, паскроб патыліцу і адрэзаў:

– Н-не. Мне с-с-самому трэба.

Ну і хітры ж гэты Заяц: цягнуў з нас жылы, пакуль увесь процівагаз за адну гранату не выцыганіў. Давялося аддаць, хоць і шкада было. Але без процівагаза можна абысціся: газаў пакуль што не пускаюць. Ды і процівагаз не такі ўжо і ўвесь. Пару лямак на рагатку мы ад яго адрэзалі.

Дык і граната была не бог ведае якая. Праўда, з рабрыстым кожухам, з ручкай, але без капсуля. Толькі, што ні кажы, граната ёсць граната. Боепрыпас.

Мы занеслі гранату на гарышча Санькавай хаты. Цяпер там захоўваецца ўсё наша снаражэнне. Патроны яшчэ восенню адкапалі і перахавалі ў салому.

Санькава маці, цётка Марфешка, не любіць, каб мы па гарышчы хадзілі, бо тады ў хаце рыпіць старая столь і ў шчыліны паміж дошак сыплецца кастрыца.

– Ціха! – шэпча Санька, прыкладаючы палец да губ, і першы бярэцца за лесвіцу. Ён лезе па ёй асцярожна, каб не стукнула, не грукнула. Вось зніклі за апошнім бервяном яго буркі, і тады пачынаю я: стану на адну перакладзіну, паслухаю і зноў.

На гарышчы цемнавата, салома прыцярушана дробным сняжком, а пад страху дык цэлыя гурбы намяло. Ды ўсё ж тут не так, як на вуліцы, – больш зацішна. А ля коміна і зусім добра – можна пагрэць рукі, крыху пасядзець і пашаптацца без лішніх сведак.

Санька прывалок сюды скрынку з патронамі, і мы ў дзесяты можа раз любуемся імі і пералічваем, ці не ўбавілася. У партызаны мы пойдзем ужо хутка. Знойдзем толькі вінтоўкі. Спачатку заглянем у Стараселле да майго дзеда Цімоха, пераначуем, адпачнём, разведаем сёе-тое і далей. Калі дзед спытае, чаго мы прыйшлі, мы адкажам, што хацелі ведаць, як ён тут жыве.

Свішча пад стрэхамі вецер, шуршыць аб сцены сухім, калючым снегам. Грукае ў сенцах цётка Марфешка, валачэ ў хату ступу. Вось ляпнулі дзверы, і неўзабаве ў хаце пачалося:

– Гук-гук, гук-гук...

Аж вядро, што вісіць на сцяне ў сенцах, бразджыць. Значыць, узялася за проса. Цяпер і нам можна смялей.

– Давай праверым мяшкі з сухарамі, – кажа Санька. Ён доўга корпаецца ў саломе, чхае ад пылу і ніяк не можа іх знайсці.

– Можа не тут паклаў? – стаю я над душой.

– Ды тут! – злуецца Санька.

Раптам ён заверашчаў не сваім голасам і з круглымі ад перапалоху вачыма адскочыў убок. Я і сам ад нечаканасці ледзь не зляцеў у сенцы на падлогу.

– Што там?

А Санька аж калоціцца:

– Штосьці жы-жыв-жывое...

Мяне ахапіла злосць.

– Ну і партызан! – і па прыкладу Міцькі Малаха цыркнуў слінай скрозь зубы. Праўда, атрымалася не вельмі ўдала, сліна павісла на падбародку, але я выцер непрыкметна яе рукавом і сам рашуча палез у хованку.

Санька стаіць убаку, а я асцярожна мацаю ў саломе. Вось пад руку трапілася супонька, пацягнуў за яе, і з саломы выскачыла шэрая, тлустая мыш. Яна глянула на мяне чорнымі бліскучымі пацеркамі, спалохана піскнула і хуценька шмыгнула зноў у салому.

На нашы торбы было горка глядзець. Дзірка на дзірцы. Ад сухароў засталася адна толькі пацяруха, перамешаная з мышыным памётам. Папера, у якую былі запакаваны бінты, таксама прыйшлася мышам да смаку. А ў Санькавым мяшку яны ўхітрыліся нават звіць сабе кубло. Толькі бутэлечкі з ёдам і засталіся цэлыя.

І тут нам на вочы трапіўся кот. Ён сядзеў за комінам, натапырыўшы ад холаду густую шэрую поўсць, і соладка драмаў. Кот быў стары, лянівы і глухі, як пень.

План помсты ўзнік сам сабой. Мы толькі паглядзелі адзін на аднаго і ўсё зразумелі без слоў. Вось мы зараз пакажам мышам. Яны будуць доўга памятаць нашы партызанскія сухары.

Санька сігануў за комін, але зачапіўся за рэзгіны і загрукатаў старымі дзіравымі чыгункамі, якія хавала тут яго маці, спадзеючыся калі-небудзь іх паладзіць. Кот неахвотна пацягнуўся і ляніва падаўся ад Санькі ў другі бок. Добра, што я тут стаяў. Я і схапіў яго за мяккі, тлусты каршэнь.

Прыцягнуты на месца мышынага злачынства, кот нічога не хоча разумець, а толькі лыпае сваімі бессаромнымі вачыма ды глядзіць, як бы задаць лататы. Мы яго і носам у салому тыцкаем, і торбу з мышыным кублом даём панюхаць – хоць бы што.

– А, дык ты яшчэ драпацца, паразіт! – разышоўся Санька і даў кату добрага кухталя. А я дабавіў, і кот залямантаваў, як рэзаны.

Мы так раззлаваліся на ката, што і не заўважылі, калі ўзлезла на гарышча цётка Марфешка. Узнялі вочы – стаіць над намі з дзеркачом у руках. Выхапіла яна ката ў Санькі ды гэтым катом яму па галаве. У нас і языкі адняліся. Кот нарэшце вырваўся ў цёткі з рук і загрукатаў па лесвіцы ў сенцы, як нячыстая сіла.

А Санькава маці схапіла торбу з мышыным кублом ды зноў – Саньку па вачах.

Я думаў, што мне гэта пройдзе сном. Не прайшло. Абодвух яна прывалакла ў хату за вушы.

– Дык вось дзе Малашыхін чартакож! – здагадалася ўрэшце яна і кінула на швейную машыну нашы армейскія мяшкі.– Паглядзі, што яны вырабляюць...

І вось мы цэлую гадзіну стаім перад ёй, як ёлупні, апусціўшы ўніз вочы. На нашы галовы, як з мяшка, сыплюцца розныя праклёны і пагрозы.

Цётка Марфешка ніяк не можа супакоіцца. Звычайна яна размаўляе па-нашаму, па-падлюбскаму, а калі раззлуецца, тут ужо рэжа па-свойму.

– А такэ дурнэ, а такэ ж лядашчэ, – гаворыць яна пра Саньку.

І я таксама «дурнэ» і «лядашчэ»...

– Каб вы сказыліся, хай вам грэц!

Мы нічога супраць гэтага не маем, абы да вяроўкі не дайшло. Санька вінавата шморгае носам. Я разглядваю свае буркі. На адным з іх са свежай дзіркі тырчыць клок рыжай ваты. Трэба неяк запхаць яе пад матэрыю, а то будуць мне дома ад бабулі добрыя партызаны...

А за акном на двары крадзецца да сініцы стары Санькаў кот. Сініца жвавая, спрытная: скок-скок – і на вішню. Кот толькі аблізнуўся. Так табе і трэба, лайдак.

– Гэць відсюля під тры чарты, скажэпы! – пужнула нас з хаты цётка Марфешка, і мы выпырхнулі за парог.




Аляксандр ПЯТРОЎ.




Алег ГУЦОЛ.






# У ЧАКАННІ ЯСКРАВЫХ ПЕРАМОГ

Ну, нарэшце! Святы скончыліся. Мы сустрэлі і Новы год, і правялі стары, і пакалядавалі, і паваражылі... Таму цяпер самы час бадзёра ўстаць з-за святочных сталоў ды... стаць на канькі ці лыжы. І тады мы як паедзем, як пакоцімся! Куды, спытаецеся? Ды на II Еўрапейскія гульні, што пройдуць сёлета ў Мінску з 21 па 30 чэрвеня! У буйнейшым спартыўным форуме кантынента прымуць удзел больш чым чатыры тысячы спартсменаў з 50 краін, разыграюць 208 камплектаў узнагарод у 15 відах спорту (23 дысцыплінах), а таксама ліцэнзіі на Алімпіяду-2020 у г. Токіа (Японія). Абслугоўваць спаборніцтвы будуць каля 650 міжнародных і 410 нацыянальных спартыўных суддзяў. Таксама чакаюць больш чым 1000 замежных прадстаўнікоў СМІ, 100 прэзідэнтаў, генеральных сакратароў еўрапейскіх федэрацый па відах спорту і міністраў спорту еўрапейскіх краін, больш за 250 прадстаўнікоў і працаўнікоў штаб-кватэры Еўрапейскіх алімпійскіх камітэтаў (ЕАК), прэзідэнтаў і генеральных сакратароў еўрапейскіх Нацыянальных алімпійскіх камітэтаў (НАК), 200 гасцей еўрапейскіх НАК, а таксама прэзідэнтаў, прэм'ер-міністраў і высокапастаўленых асоб еўрапейскіх дзяржаў.

Для недасведчаных яшчэ крыху патлумачым. Еўрагульні — гэта міжнародныя комплексныя спартыўныя спаборніцтвы сярод спартсменаў еўрапейскага кантынента, якія праводзяцца раз у 4 гады пад кіраўніцтвам ЕАК. І Еўрапейскія гульні прайшлі ў 2015 годзе ў г. Баку (Азербайджан). Зборная Беларусі заняла ў агульным медальным заліку сёмае месца. Нашы спартсмены заваявалі 43 узнагароды (10 залатых, 11 сярэбраных і 22 бронзавыя медалі).

Словам, о, спорт, ты — у Мінск! Турысты, фанаты, спартсмены, трэнеры, спаборніцтвы ў сіле, шпаркасці і спрыту...

А паколькі ўсе вожыкаўцы, безумоўна, любяць спорт, мы не маглі застацца ў баку ад гэтай маштабнай падзеі. Таму будзем разам актыўна займацца фізічнымі практыкаваннямі. І заадно ўзгадваць тое-сёе цікавае пра «еўрапейскія» віды спорту.

У першым нумары мы выбралі: пляжны футбол, баскетбол 3Ч3, настольны тэніс і бадмінтон.

Што мы ведаем пра футбол?

О, мы ведаем усё! Дзве каманды. Па 11 чалавек у кожнай. Сапернікі. Збіраюцца на полі (пажадана на роўным, без град з памідорамі, разораў пад бульбу і інш.). Туды ж выходзяць некалькі сталых мужчын. У іх заўсёды штосьці ёсць з сабой. Гэта свісткі ў роце, мужчыны — суддзі. Камандам кідаецца круглы прадмет. Мяч. І абедзве павінны (па жаданні) гэты мяч забіць. Нагамі. У вароты.

А што такое пляжны футбол? «Гібрыд» футбола. Як, дарэчы, і міні-футбол. Зноў дзве каманды, але — па пяць ігракоў у кожнай: чатыры на полі, адзін — на варотах. І поле тое — не велізарнае, так, 28 на 37 метраў. І не з траўкай зялёненькай, а — з пясочкам залацістым. І не два таймы па 45 хвілін хлопцы бегаюць, а — тры перыяды (як у хакеі), па 12 хвілін кожны.

Ну, і выйграе тая каманда, якая...

Як лічыце, што павінны зрабіць каманды?

Варыянты:

1) узараць поле;

2) перакаціць поле;

3) забіць гол.

Правільна! Забіць давядзецца па-любому, бо ў пляжным футболе нічыіх не прадугледжана правіламі.

Коцім мяч далей.

Што нам вядома пра баскетбол? Так, гуляюць у яго таксама мячом, але большым і цяжэйшым і — рукамі, а не нагамі. Прычым на паркетнай пляцоўцы. Ізноў патрабуюцца дзве каманды сапернікаў...

Але на Еўрапейскіх гульнях гуляюць не ў звычайны баскетбол, а баскетбол 3Ч3, г. зн. іракоў у камандзе

не па пяць, а... Правільна, па тры! А вось далей, шаноўныя, лічыце самі. І колькі кідкоў мячом (акрамя штрафных), і колькі спецыяльных кошыкаў, і якія памеры пляцоўкі.... Бо я крыху стаміўся і пайшоў на перакур, прабачце, я па-за гульнёй, у афсайдзе.




у гісторыю гэтай сустрэчы ўнёс і... мясцовы чорны дварняк, які раптам выскачыў на поле ў разгар матча. Суддзя гульню спыніў, але сабака і не збіраўся пакідаць поле, радасна брэшучы на футбалістаў. Паліцыя, натуральна, не ўмешвалася. Тады ігракі самі вырашылі злавіць сабаку, але – дзе там!

Пашанцавала толькі абаронцу англічан Джымі Грыўзу: ён, сам заўзяты сабакар, устаў на карачкі і пачаў падклікаць сабаку. І той пайшоў да брытанца! Радасны Грыўз падхапіў дварняка на рукі, каб вынесці за межы поля, але той, мабыць, перахваляваўся і незнарок «акрапіў» футболку Джымі! А паколькі мяняць экіпіроўку тады было забаронена, абаронцу давялося выступаць у ёй да канца матча... Адзіны плюс ад такой «падмочанай рэпутацыі», па яго асабістым прызнанні, быў у тым, што бразільцы на полі ўцякалі ад яго, як чорт ад ладану – так дрэнна пахла ад футбаліста...

Кажуць, што пасля гэтай гісторыі самымі папулярнымі мянушкамі сабак у Англіі сталі Джымі і Грыўз. А спрытны дварняк, дзякуючы журналістам, нават патрапіў у Бразілію і быў разыграны там у латарэю паміж футбалістамі зборнай. Дастаўся ён... Гаррынчы і атрымаў мянушку Бі – скарочана ад слова «бікампеонтато», у гонар другой перамогі гэтага сапраўднага чараўніка мяча на чэмпіянатах свету.

**Вядучы рубрыкі аматар спорту Аляксандр ЗОТАЎ.**

*Працяг – у наступным нумары.*



Што тычыцца настольнага тэніса і бадмінтона, то, відаць, у спартыўныя тонкасці паглыбляцца не варта. Назавём галоўнае: сетка, ракетка, мячык, воланчык, сэт, сусвет, два ігракі ці дзве пары ігракоў... І гульня, да перамогі!

А напрыканцы ўзгадаем адзін пацешны выпадак з гісторыі самай папулярнай спартыўнай гульні.

## ХВАСТАТЫ ІГРОК

Чвэрцьфінал чэмпіянату свету 1962 года ў Чылі паміж зборнымі Бразіліі і Англіі запомніўся не толькі бліскучай гульнёй Гаррынчы, які зрабіў дубль у вароты родапачынальнікаў футбола. Свой важкі ўклад



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

Андрэй СІДАРЭЙКА

# З чыстага аркуша

*З нататак сярэднестатыстычнага абывацеля*

*31 снежня.* Час падвесці вынікі года. Што планавалася, жадалася і што з гэтага атрымалася. Мой дзённік – мая вам споведзь.

**Запіс № 1.**

*1 студзеня.* З першага панядзелка года пачаць весці здаровы лад жыцця. Набыць лыжы, спартыўны касцюм.

Паколькі зіма выдалася не снежнай, катацца можна было на роліках, але яны ў планы не ўваходзілі. Снег быў 1 студзеня, 13 студзеня, 23 лютага і 8 сакавіка. Але ў гэтыя дні дух здаровага ладу жыцця ўва мне спрэс адсутнічаў.

*Планы на будучыню.* З першага панядзелка новага года купіць ролікі, спартыўны касцюм. Не забыць пра кефір і расол.

**Запіс № 2.**

*14 лютага* зрабіць Каці рамантычную прапанову. Калі адмовіць, то прапанаваць Аліне.

Каця адмовіла, Аліна паехала на Мальдзівы. Словам, дзень закаханых не атрымаўся.

*Планы на будучыню.* Каханне наперад не планаваць. Само нечаспадзявана прыйдзе, калі яго зусім не чакаеш.

**Запіс № 3.**

*23 лютага* незаўважна знікнуць з дому або не вяртацца туды з працы. Адзначыць свята ў мужчынскай кампаніі.

Не пашанцавала: свята выпала на выхадныя. Атрымаў у падарунак новыя шкарпэткі, цэлы дзень прасядзеў дома, глядзеў канцэрт па тэлебачанні.

*Планы на будучыню.* Пры планаванні карыстацца календаром. Калі свята прыпадзе на выхадныя, не з'яўляцца дадому з пятніцы.

**Запіс № 4.**

*8 Сакавіка.* Павіншаваць жанчын з Міжнародным жаночым днём.

Гэтаму нічога не перашкодзіла, бо на працы і па тэлевізары пра жаночае свята пачалі нагадваць адразу пасля 23 лютага.

*Планы на будучыню.* Больш такіх свят. І жанчын павіншаваў, і сам адзначыў. Традыцыю не парушаць.

**Запіс № 5.**

*7 красавіка*, у Сусветны дзень здароўя, пачаць займацца бодыбілдынгам. Для гэтага на балконе ёсць гантэлі.

У выніку ні раніцай, ні вечарам зайсці на балкон так і не змог. Заўсёды знаходзілася нейкая іншая тэрміновая справа.

*Планы на будучыню.* У першы тыдзень наступнага года перанесці гантэлі з балкона на кухню.

**Запіс № 6.**

*1 Мая* з'ездзіць на дачу. Пасадзіць бульбу, моркву, цыбулю...

Пад пільным наглядам любімай цешчы ўсё задуманае спраўдзілася.

*Планы на будучыню.* На першамай купіць цешчы пуцёўку ў санаторый, з'ездзіць на рыбалку.

**Запіс № 7.**

Схадзіць у бібліятэку, узяць раман Фёдара Дастаеўскага «Ідыёт». Калегі і знаёмыя адзначаюць, што твор пра мяне.

Бібліятэка знаходзіцца за некалькі прыпынкаў ад дому. На жаль, даехаць туды ўсё не выпадае. Ніяк не шанцуе.

*Планы на будучыню.* Паехаць з працы дадому іншым маршрутам, пажадана з іншага канца горада. Не прапусціць прыпынак «Бібліятэка».

**Запіс № 8.**

*16 лістапада.* У Сусветны дзень барацьбы з курэннем кінуць курыць.

Перад тым, як здзейсніць мару, выкурыў напаследак два пачакі цыгарэт. І зразумеў, што з гэтай ідэяй я пагарачыўся.

*Планы на будучыню.* У наступным годзе не ўзгадваць пра гэтую дату.

**Запіс № 9.**

Пачаць вывучаць замежную мову, каб паехаць адпачыць на мора.

Схадзіў у краму, набыў атлас. Вывучаю, дзе лепш адпачыць. На мову часу пакуль няма.

*Планы на будучыню.* Вызначыцца з месцам адпачынку, пачаць вывучаць мову абарыгенаў.

**Запіс № 10.**

Сябар падарыў кнігу Фёдара Дастаеўскага «Ідыёт». Сказаў, што жонка дала яму некалькі экзэмпляраў з наказам «табе і тваім сябрам».

Прыемна атрымліваць нечаканыя падарункі.

*Планы на будучыню.* Першага студзеня прачытаць першую старонку рамана. Затым – наступную. У кнізе ўсяго 365 старонак. За год спраўлюся.

**Запіс № 11.**

Прадаць атлас. Такім чынам вызначыцца з адпачынкам будзе прасцей.

Атлас ніхто не набывае. Усе карыстаюцца інтэрнэтам.

*Планы на будучыню.* Крочыць у нагу разам з усімі. Але спачатку прачытаць раман «Ідыёт».

**Запіс № 12.**

З'ездзіць на зімовую рыбалку першага снежня, бо на традыцыйную летнюю не паспеў.

Цэлы дзень прасядзеў на ільдзіне. Нічога не злавіў. А сусед насупраць выцягнуў пяць шчупакоў. Сказаў, што трэба верыць у прыкметы. Напрыклад, да першага снежня уставаць з левай нагі. Другая парада: браць з сабой «сагравік».

*Планы на будучыню.* Да наступнага першага снежня падымацца з ложка толькі з левай нагі. Паглядзець у энцыклапедыі, што азначае тэрмін «сагравік».

**Запіс № 13.**

*31 снежня* наступнага года не забыць прааналізаваць планы мінулага года, спрагназаваць планы на год новы.

*P. S.* Не забыць пра раман «Ідыёт».

*P. S. S.* Калі атлас ніхто не набудзе, падарыць яго на Новы год сябру. Яны даўно ўжо з жонкай планавалі адпачынак на моры.

*P. S. S. S.* Прыдумаць нешта арыгінальнае. Каб усе родныя, сябры і знаёмыя зноў сказалі: «А гэтага мы ніяк ад цябе не чакалі!..»

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*




# ЁЛКІ-ПАЛКІ

*Пляменніку Сяргею*

У сценах універсітэта
Юнак старанна ўсё вучыў,
А потым толькі месяц летам
Капаў на практыцы карчы.

Зуброў, аленяў ды мядзведзяў
З дзяцінства помніў з буквара.
Так непрыкметна і не згледзеў,
Як працаваць прыйшла пара.

Патрапіў ён на лесасеку,
Хоць марыў сам пра Белавеж.
Стары ляснік спытаў са здзекам:
– Калега, ты гарэлку п’еш?

Забудзь, што скончыў універы,
Трымай сякеру у руках.
Цяпер ты будзеш інжынерам
Па пнях, бярвеннях і суках.

Прыціх хлапец у задуменні,
Бо быў ён вельмі малады.
Перад вачыма, як імгненне,
Прайшлі студэнцкія гады.

Пад цыгарэтаю запалкай
Нервова чыркнула рука.
Вакол гушчар, а ёлкі-палкі
Здаліся... ікламі ваўка!

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*

# Прымаўкі з працягам

Жыць весела, ды есці нечага. *Пры такім раскладзе не дужа павяселішся.*

Хто доўга спіць, той хлеба не бачыць. *Хіба што ў сне...*

Лішні грош у кішэні муляе. *Насі ў партфелі!*

Аддай дочку, ды яшчэ піва бочку. *Апошняга шкада ўсё ж...*

На наш век дурняў хопіць. *Але ж варта і пра дзяцей ды ўнукаў парупіцца.*

Дарма і казёл не скача. *Каза гэта ведае...*

Хочаш быць шчаслівы – не будзь лянівы. *Для некаторых жа і лянота – шчасце.*

Хто не сее, той не вее, а хто сее, той і вее. *Зразумей тут, каму лепш.*

Як сіраце жаніцца, тады ноч кароткая. *Жаніся ўдзень!*

Ад п’янага і чорт уцякае. *Ці не таму і напіваюцца да чорцікаў?*

Душа меру знае. *А горла?*

Гарбатага магіла выпрастае. *Але ж не паміраць дзеля гэтага!*

У лянівага рукі не баляць. *Хіба што бакі...*

Дробным макам рассыпаецца. *Сабраў бы хто толькі...*

За што купіў, за тое і прадаў. *А дзе навар?*

Ногі дзярэ, а боты на кіі носіць. *Вядома ж, ногі дасталіся бясплатна, а боты – за грошы.*

Нязнайка дарогі не пакажа. *Горш, калі пакажа, але не туды.*

Пад чужую дудку скача. *А хіба, сам іграючы, паскачаш?*

Крычыць не сваім голасам. *Пад чужую фанаграму спявае, ці што?*

Добра сядзеў, а нічога не выседзеў. *Дык ён жа не курыца-квактуха.*

Ласкавым словам сыт не будзеш. *А неласкавым?*

**Даслаў Анатоль ЗЭКАЎ,**
*г. Мінск.*




**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

*Усе без выключэння старажытныя народы шчыра верылі ў розных багоў і духаў. Навукоўцы называюць гэтыя вераванні міфалогіяй. Найбольш знакамітымі лічацца паданні старажытных грэкаў, скандынаваў і індусаў. Але ж і наша беларуская міфалогія таксама вельмі цікавая і разнастайная! Шкада толькі, што нават у самой Беларусі яна значна менш вядомая, чым тая ж, напрыклад, старажытнагрэчаская.*

*Таму варта было безумоўна, тэрмінова, адмыслова выпраўляць такую несправядлівасць! Добра падумалі ды вырашылі стварыць спецыяльны міфалагічны цыкл для часопіса «Вожык».*

*Чаму менавіта для «Вожыка», магчыма, спытаецеся вы. Часопіс гэты не гістарычны, не навуковы. Тут жа гумар, тым больш, сатыра... Хіба такіх адносін заслугоўваюць да сябе персанажы нашых легенд?*

*Крыху скажу адразу, што сатыры ў маіх гісторыях не будзе аніякай, бо я і сапраўды адношуся да міфалогіі (і не толькі да беларускай) з вялікай пашанай. А вось лёгкі гумар – іншая справа, асабліва калі ён спалучаецца з навукова дакладнай інфармацыяй.*

*Крыху падрабязней пра сам цыкл. У кожнай міфалогіі (у тым ліку, і ў беларускай) маюцца і магутныя багі, і больш драбнаватыя духі. Апошніх, па меркаванні нашых продкаў, незлічоная колькасць! (Напрыклад, у кожным лесе – свой лесавік, у кожным вадаёме – вадзянік...)*

*Таму пачаць я вырашыў менавіта з багоў (каб не пакрыўдзіліся за няўвагу ды не адпомсцілі). У студзеньскім нумары гэта будзе Бялун, у лютаўскім – Пярун, у сакавіцкім – Ярыла і Лёля. А затым пойдуць духі: лесавік, вадзянік з русалкамі, дамавік. Уключыў у паданні і шкодных злыдняў, і добрага конскага апекуна Вазілу, і загадкавага Вужынага цара. Ну, а напрыканцы года запрашу ў снежаньскі нумар зімовага бога Зюзю і ягонага паплечніка Мароза, які, дарэчы, да вясёлага і спагадлівага дзядулі Мароза не мае аніякага дачынення.*

*Зацікавіліся? Тады хутчэй чытайце пра галоўнага бога нашай міфалогіі – Белуна ды яго прыгоды!*

## Як Бялун стварыў Сусвет, а чорт яму дапамагаў



Якую б мы ні ўзялі язычніцкую міфалогію, у любым боскім калектыве меўся бог-шэф, які ўвесь навакольны Сусвет стварыў. У міфалогіі старажытных грэкаў такім богам быў Уран, у індуісцкай – Брахма. Незразумела толькі, як яны схітрыліся адзін і той жа Сусвет стварыць? Магчыма, была наладжана нейкая вытворчая кааперацыя.

Але калі верыць продкам, Сусвет стварыў галоўны бог нашай міфалогіі – Бялун. І вось як гэта адбылося...

Вандраваў неяк Белун у пустэчы касмічнай, бачыць: каменны шар непадалёку праплывае, а ў ім хтосьці скуголіць жаласліва. Цікава стала Белуну, уміг раскалоў ён гэты астэроід, а адтуль чорт выскачыў. І кажа:

– І ахвота табе ўвесь час у пустэчы лётаць? Стварыў бы што-небудзь цвёрдае!

«А чаму б і не?» – падумаў Бялун і загадаў чорту (калі ён такі разумны) нырнуць у мора і дастаць са дна крыху зямліцы.

Як магло стацца, што нічога не было, а мора існавала – маніць не буду, не ведаю. Але чорт не быў бы чортам, калі б схітрыць не ўздумаў. Зямліцу ён Белуну прынёс, але і для сябе крышачку ў роце прыхаваў. І пачаў уважліва назіраць за тым, як жа Бялун будзе ствараць Сусвет. Каб затым і самому паспрабаваць.

Толькі вось не пашчасціла чорту-небараку. Бялун штомоцы шпульнуў зямлю сабе пад ногі ды як закрычыць: «Зямля, расці!» І пачала зямля расці, утвараючы сушу. У той жа час пачала шугаць зямля і ў роце ў чорта, раздзімаючы яму шчокі. Спалоханы нячысцік кінуўся наўцёкі, выплёўваючы па дарозе глебу. Такім чынам на раўніне, ужо створанай Белуном, з'явіліся шматлікія пагоркі і ўзвышшы. А калі чорт дамчаў да Палесся, запасы зямлі ў ягоным роце скончыліся, таму ў гэтай мясцовасці ўзгоркаў няма, адна роўная балоцістая нізіна.



Але чорт з ім, з чортам! Што ж з Белуном далей стала?

А далей даведаўся ён пра незайздросны лёс калег па стварэнні сусветаў. Урана ягоны сын Крон падманам зверг (потым, праўда, і самога Крона ягоны сынок Зеўс у дурнях пакінуў). А ў Брахмы багі Шыва і Вішну не толькі ўладу забралі. Шыва яму яшчэ і адзін з твараў адсек (той, якім Брахма ўверх глядзеў) і застаўся небарака (які жах!) ўсяго толькі з чатырма тварамі...

Таму Бялун, каб з ім нічога падобнага не адбылося, добраахвотна перадаў уладу сваім дзецям. (Перуна за галоўнага прызначыў.) А сам на пенсію пайшоў. Жывы і здаровы.







Марыў стаць лётчыкам — ездзіць на веласіпедзе.

Упаў з ганка — пахваліўся, што з гарышча.

Лятаў на поўнач — вярнуўся з поўдня.

Ірваўся ў кіраўнікі — працуе начным кіраўнікам.

Купіў расаду жоўтых перцаў — выраслі чырвоныя памідоры.

Злавіў печкура — сказаў, што шчупака.

**Заўважыў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*



Аляксандр ШМІДТ.




## Японія

Смех – адзін з самых найлепшых спосабаў даведацца пра традыцыі чужых краін і пасябраваць з яе жыхарамі. Паверце, у беларускім і любым замежным гумары нямала агульнага.

Летась Вожык ужо вандараваў па Італіі, ЗША, Чэхіі... Сёлета таксама не збіраецца сядзець дома, яму карціць хутчэй выпраўляцца ў дарогу. І сёння ён выправіўся ў... Японію!

Некаторыя кажуць, што ў японцаў няма пачуцця гумару. Але гэта няпраўда! Адно, гумар іх часам значна адрозніваецца ад еўрапейскага.

Напрыклад, нацыянальны эстрадны гумар дзеліцца на ракуго (камічны маналог) і мандзай (сцэнічны дыялог). Апавядальнікі жанру ракуго – камедыянты вышэйшага класа. Яны расказваюць свае пацешныя гісторыі, седзячы на спецыяльных падушках і апрануўшыся ў кімано. У руках у іх толькі веер, які замяняе ўсе магчымыя дэкарацыі і вядзе гледачоў у свет вандроўных самураяў, вострых на язык гараджан, вясковых дуралеяў і сварлівых жонак. Гэта аднаактовы монаспектакль выключнай дасканаласці. Японцы смяюцца падчас прадстаўлення, бо ўсё ў ім з жыцця. А таксама таму, што разумеюць падтэкст. Прырода іх смеху – суперажыванне і спачуванне.

Мандзай адрозніваецца інтэнсіўным тэмпам, хуткімі пераходамі ад адной тэмы да другой і часам дзіўнымі сітуацыямі на сцэне. І сёння карыстаецца шырокай папулярнасцю і захаваўся ў практычна нязменным выглядзе з даўнейшага часу.

Японцы могуць смяяцца ад душы, толькі калі яны робяць глупствы з такімі ж, як яны. Таму ў іх вельмі папулярныя тэлегульні, падчас якіх японцы ахвотна выконваюць розныя заданні (шчыра кажучы, даволі дзіўныя для нас), галоўнае – разам!

Яшчэ адна крыніца весялосці – гульня слоў. У японскай мове шмат аднолькавых на слых слоў ці граматычных канструкцый, якія нагадваюць словы. Але, на жаль, нам вельмі цяжка гэта дакладна перакласці, каб зразумець усю «соль».

Ёсць, вядома, і прафесійныя гумарысты, што выступаюць з канцэртамі. Існуюць нават цэлыя дынастыі такіх артыстаў. Гэта віртуозы імправізацыі і сцэнічнага майстэрства. Хапае гумарыстаў і больш еўрапейскага стылю. Часта гэта сцэнічныя пары накшталт добра вядомых у нас Тарапунькі і Штэпселя. Яны разыгрываюць сцэнкі, спяваюць куплеты.

Анекдотаў у Японіі няма. Паміж сабой японцы пераважна расказваюць не анекдоты, а байкі – дастаткова доўгія гісторыі, над якімі смяюцца толькі яны самі, бо гэтыя сцэны напоўнены алегорыямі з класічных твораў, народных казак, паданняў... Але нашы еўрапейскія анекдоты японцы вельмі любяць і разумеюць. Жарты пра знаёмыя ўсім рэчы ці з'явы, безумоўна, выклікаюць аднолькавую рэакцыю ва ўсіх людзей, незалежна ад нацыянальнасці. Гумар інтэрнацыянальны: галоўнае, трэба ведаць, каму што і калі расказваць.

А ў цэлым японцы давяраюць жартаваць прафесіяналам. Вельмі рэдка яны рызыкнуць расказаць анекдот. Прычым пачынацца ён будзе абавязкова са слоў: «А цяпер я вам раскажу анекдот...», каб вы не забыліся пасмяяцца ў канцы. Нежаданне рызыкаваць і боязь аканфузіцца стрымлівае японцаў ад іроніі, фрывольнасцей і бытавога гумару. Сарказм жа іх літаральна забівае.

Затое кажуць, што калі вам пашанцуе ўбачыць японцаў у нефармальнай абстаноўцы, падчас добрай і «моцнай» бяседы, тады вы пера-



Хісако НАКАЯМА.



Кацунорі КАІХАРА.

канаецеся: яны могуць быць вельмі і вельмі вясёлымі, бо практычна ўсе ў душы — дасціпныя гумарысты.

* * *

Раман у малюнках — відаць, самы дакладны пераклад японскага слова «manga». Гэта і форма выяўленчага мастацтва, і літаратура.

Манга — гэта творы самых розных жанраў, на самыя розныя тэмы: прыгоды, рамантыка, спорт, гісторыя, гумар, навуковая фантастыка, жахі... Чытаюць яе людзі самых розных узростаў і інтарэсаў. Амаль уся манга малюецца і выдаецца чорна-белай, хаця ёсць і каляровая. Па ёй звычайна здымаецца анімэ, хаця здараецца і наадварот. Класіфікуюць манга па поле і ўзросце чытацкай аўдыторыі.

Сярод розных відаў графічнага апавядання існуе і «Yon-koma» — кароткая манга, якая складаецца зазвычай з чатырох кадраў. Яе публікацыяй часта займаюцца газеты і часопісы. Сюжэт звычайна носіць гумарыстычны ці нават сатырычны характар.

# Анекдоты

— Ві такісамя японес?
— Не, мяне восы пакусалі...

* * *

— Прабачце, спадзяюся, што маё пытанне не падасца вам нетактоўным, але вельмі хацелася б ведаць: кітайцам еўрапейцы таксама здаюцца падобнымі адзін на аднаго?
— Адкуль я ведаю? Я японец.

* * *

Стук у дзверы. Маладая японка адчыняе і бачыць на парозе бруднага валацугу.
— Прыгажуня! Нішто зараз не прынясе мне большага задавальнення, як кубачак саке, — гаворыць той.
— А вы віскі каштавалі? — пытае гаспадыня.
— Не.
— Вось калі пакаштуеце, прыходзьце і раскажыце, што лепш.

* * *

Жонка гаворыць мужу:
— Ты ўжо цэлую гадзіну тлумачыш турысту, куды вядзе гэта вуліца. Але ж ты і сам не ведаеш!
— Так, але не магу ж я адмовіць чалавеку ў дапамозе.

* * *

Чалавек, які перажыў землятрус, дзеліцца ўражаннем са знаёмым:
— Гэта было штосьці незвычайнае! Гатэль раскачваўся ў розныя бакі. Кубкі, лыжкі, кнігі ляталі па ўсім пакоі, а...
— Вялікі Божа! — нечакана перапыніў яго субяседнік. — Я забыў адправіць пісьмо, якое жонка дала мне тры дні таму!

* * *

— Ведаеш, дарагая, мужчыну, які рамантаваў нам дах, збіў аўтамабіль.



Нісуке ШІМОТАНІ.



Акіо ОГАВА.




Кадзумаса НАГАІ.

— Што ж гэта робіцца! Нават на даху нельга адчуваць сябе ў бяспецы ад гэтых машын!

* * *

У кветкавы магазін заходзіць японец і просіць прадаць яму гаршчок з геранню.

— Шкада, але яе ў нас сёння няма, — адказвае прадавец. — Можа купіце хрызантэмы? Яны прыгажэйшыя і, несумненна, задаволяць густ той, каму вы іх падорыце.

— Не, — адказвае пакупнік, — хрызантэмы не падыдуць. Я абяцаў жонцы паліваць герань, пакуль яна гасцюе ў маці.

* * *

— Я ўпэўнена, татачка, што ў майго жаніха самыя сур'ёзныя намеры!

— Чаму ты так думаеш?

— Ён пытаў, як гатуе мама і колькі ты зарабляеш.

* * *

Жонка, расхваляваная няўдалай здзелкай, гаворыць мужу:

—Кабаясі-сан, якія ж мы дурні!

— Толькі, калі ласка, гавары ў адзіночным ліку.

— Добра, я згодна. Які ж ты дурань!

* * *

Японец паказвае пальцам на «Жыгулі»:

— Якая добрая машына! Сам зрабіў?

* * *

Адзін японец прыходзіць у заалагічны магазін.

— Чуў, што ў вас можна набыць папугая, які ўмее гаварыць на нашай мове.

— Ведаеце, усіх раскупілі. Але спецыяльна для вас у нас ёсць вельмі талковы дзяцел. Ён ведае азбуку Морзэ!

* * *

— Мая жонка вельмі любіць жывёл.

— А мая — вегетарыянка.

* * *

Гутарка двух японцаў.

— Я столькі гадоў пражыў у Беларусі, але так і не змог нармальна вывучыць мову...

— Чаму?

— Ну, слухай. падыходжу я на кірмашы да прадаўца і пытаюся: «Гэта што?» Ён мне адказвае: «Чорная парэчка». Я — яму: «А чаму яна чырвоная?» Той апраўдваецца: «Дык зялёная яшчэ...»

**Сабраў і пераклаў**
**на беларускую мову**
**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

## Век жыві — век вучыся!

*Аматарам усходняй паэзіі добра вядомы такі яе жанр, як хайку. Кампактныя трохрадкоўі — гэта цэлая квінтэсэнцыя лірычнасці, філасафічнасці, вобразнасці. Аднак японцы ўмелі не толькі любавацца прыродай, але і жартаваць, смяяцца. Як ні дзіўна, гумарыстычны змест выдатна лёг на класічную паэтычную форму. Так узніклі сэнру — жанр японскай паэзіі, які па форме супадае з хайку, але валодае сатырычным ці гумарыстычным падтэкстам, выражае іронію ці парадокс. Колькі спроб у гэтым жанры — вашай увазе.*

«І гэта калісьці пройдзе!» —
Упэўнена я напісаў
Віламі па вадзе.



* * *

Нават кактус учора зацвіў.
Паспрабуй на хвілінку і ты
Усміхнуцца.



* * *

Саромелася фігуры
І таму толькі ноччу выходзіла
Поўня.



* * *

Выбраў прыгожую кветку
Без водару і без нектару
Матылёк.



* * *

Дачакаўся нарэшце Іван:
Каля ног яго — прыгажуня...
Галалёдзіца.

* * *

Усё жыццё — тэатр.
А вось у мяне нават куртка
Без вешалкі.




# Пачытайце дзецям!

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Зай і Шарык



Зай зімой, у снегапад,
Уначы забег у сад.
І падкраўся быццам ціха,
Толькі – бы на тое ліха –
Не драмаў у будцы Шарык.
Ён пачуў, што нехта шнарыць,
І падумаў, што, няйначай,
Паміж яблынь заяц скача.
Мігам Шарык з усіх пят
Паляцеў праз плот у сад.

Быў і Зай не лыкам шыты –
З саду сігануў, нібыта
Падпаліў яму хто пяты.
Сам ужо таму не рады,
Што зімой, у снегапад,
Завітаў у гэты сад.
Добра хоць, што небараку
Не дагнаў яшчэ сабака.

Болей Зай у сад не лезе –
Лепш асінкі грызці ў лесе.
Іх кара гарчыць, канечне,
Ды затое ўсё ж бяспечна.

## Тапкі ці валёнкі?

Каб зімой не мерзлі лапкі,
Зай купіў у краме тапкі.
А калі б хто падказаў,
Ён бы тапкі не купляў,
Бо зімою, у завеі,
Тапкі зая не сагрэюць.
Не для тапак зімні час.
Вось валёнкі – самы раз.
І таму дарэмна тапкі
Зай купляў сабе на лапкі.



## У чым справа?

Сабака з катом не сябруе.
Прычына адна тут, дарэчы:
На вуліцы першы начуе,
Другі грэе плечы на печы.

Віны ў тым кашэчай ніякай.
Спрадвеку ўжо справа такая:
Кот ловіць мышэй,
А сабака
Увагі на іх не звяртае.



## Вершаваныя задачы

У Палінкі тры малінкі,
Сем брусніц у Віталінкі,
Пяць у Вікі журавінак.
Колькі ягад у дзяўчынак?

*(Пятнаццаць.)*



* * *

Прынесла Даша для Марыны
Бананы два, тры мандарыны,
Тры шакаладныя цукеркі,
Блішчаць ружовыя паперкі.
Старанна фрукты палічыце
І колькі іх было, скажыце.
Не пасяшайцеся з адказам!
Дык колькі ўсіх ласункаў разам?

*(Пяць фруктаў, а ўсіх ласункаў – восем.)*



* * *

У Яны трое качанят,
Сіямскіх трое кацянят,
Сямёра жоўтых куранятак
І двое рыжанькіх шчанятак.
А вы за ўсімі прасачыце
І птушанятак палічыце.

*(Дзесяць.)*



**Даслала Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*




*Фельетон*

У кабінет галоўнага ўрача заскочыў загадчык па гаспадарчай частцы Іван Круцель:

– Мікалай Іванавіч, я толькі на хвілінку! Падпішыце заяўку.

Галоўны ўрач выцягнуўся усім целам з-за масіўнага стала, не спяшаючыся забраў з рук свайго супрацоўніка аркуш паперы і пачаў услых чытаць:

– Просім заказаць для патрэб мясцовай паліклінікі чатырыста вешалка-месцаў. Гэта што такое? – Мікалай Іванавіч адсунуў у бок заяўку. – Любому культурнаму чалавеку слых рэжа. Кожная папера павінна быць узорам дакументалістыкі. Я фармалізму не пацярплю! Напішыце, як трэба!

– А я не ведаю, як... – развёў рукамі Іван Сямёнавіч. – Я ж больш па матэрыяльнай частцы. Падкажыце, як правільна.

– Колькі вас вучыць можна? Запісвайце за мной!

– Пачакайце, – узрадаваўся загадчык. – Можна я зараз Любу з прыёмнай паклічу? Яна хутчэй літары выводзіць.

Калі сакратарка размясцілася за сталом, Мікалай Іванавіч пачаў ёй дыктаваць:

– Просім выпісаць для патрэб паліклінікі 400 вешалак стацыянарнага тыпу для навешвання наведвальнікаў...

– Вешалкі для навешвання... Тая яшчэ фармуліроўка атрымліваецца, – нясмела заўважыла жанчына.

– Твая праўда, – згадзіўся Мікалай Іванавіч. – Тады хай будзе так: для размяшчэння паліто дарослых і дзяцей.

– А чаму толькі паліто? А курткі і футры? – тут ужо ўставіў свае пяць капеек Круцель.

– Незразумела нейк атрымліваецца, – задумаўся галоўны ўрач. – Як так скласці заяўку, каб і ў камітэце не пасмяяліся, і каб вешалкі правільныя далі?

– Можа, з калектывам параімся? – прапанаваў Іван Сямёнавіч. – Пытанне ж сур'ёзнае...

– Паклічце на пяціхвілінку ўсіх галоўных спецыялістаў! – загадаў сакратарцы Мікалай Іванавіч.

Амаль час, вохкаючы і стогнучы, чакалі хворыя пад дзвярамі кабінетаў, пакуль урачы былі на сходзе. Вынікам сумеснай працы стаў «шэдэўр» эпісталярнага жанру: «Заяўка. Просім адгрузіць для патрэб мясцовай паліклінікі 400 вешалак заводскай вытворчасці стацыянарнага тыпу, канструктыўна здольных утрымліваць верхнюю вопратку ў адпаведнасці з яе сезоннасцю і ўсіх існуючых відаў як дарослых, так і дзяцей з улікам асаблівасцей іх фізічнага складу».

Галоўны ўрач з палёгкай падпісаў заяўку, а дактары нарэшце паспяшаліся да сваіх хворых.

У камітэце гэтую старанна падрыхтаваную паперу далей першых слоў «Просім адгрузіць...» ніхто не чытаў. Яе адразу перанакіравалі на склад, дзе баба Нюра ўзяла аркуш, хутка прабегла па ім вачыма, выпісала накладную на чатырыста тыповых вешалак. А заяўку кінула ў старую кардонную папку, нават не дачытаўшы да канца.

**Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.




### Чаму не са мной?

Ой, скажыце, ой, скажыце,
Хто праклаў сцяжыну ў жыце,
Пахіліўшы пры тым каласы да
зямлі?

Памыліцца я баюся,
Толькі гэта не Маруся:
Мы з Марусяй у клубе на танцах
былі.

У сухмень-спякоту летам
Там тапталася не Света:
Яны ўчора з Алесем па Сожы
плылі.

І наўрад ці хто спаткае
Ў каласах дзяўчыну Раю:
У гародзе сустрэць працаўніцу
маглі.

Нібы быць там не павінна
І вясёленькай Мальвіны:
Пакусалі надоечы ў садзе чмялі.

Думка не дае спакою –
Хто таптаўся не са мною?
І чаму каласкі так прыгожа ляглі?

**Мікола МІНЧАНКА,**
*г. Клімавічы.*



## Мініяцюры

### Вось дык успамін!

Казаў рыбак:
– Ніколі не забуду,
Як мне шчупак
Зламаў аднойчы вуду.
Вялізны монстр
Жыў у трысці –
Так нават рукі
Нельга развясці.

### Запыты і рэальнасць

Ва ўсіх дзяўчат
Ёсць кавалеры.
Няма палоўкі
Толькі ў Веры.
Ніяк ёй не спаткаецца
Удача:
Каб хлопец меў
Аўто, кватэру, дачу.

### «Вандроўнік»

Куды яго ні кідаў
Толькі лёс –
Ні да адной мясціны
Не прырос.
Ніяк не зразумее,
Што даволі
Каціцца, як ад ветру
Зелле ў полі.

### Папярэджанне

Волас сівы ў барадзе,
Ну, а д'ябал – у рабры...
З маладзіцай дзед ідзе,
Усміхаюцца сябры:
– Відаць, забыўся ты, Піліп,
Што ёсць усюды мера.
Глядзі, каб у бяду не ўліп,
Як выганіць з кватэры!

**Уладзімір ФІЛАТАЎ,**
*г. Мінск.*

### Віртуальны раман і рэальны падман

Надакучыла адной
Дзень пры дні кабеце.
Вырашыла пашукаць
Мужа ў інтэрнэце.
Каб разумны быў, не піў
Ды каб без пратэстаў...
«Не старая шчэ зусім –
Чым жа не нявеста?»
Прыглянуўся ёй адзін,
Вельмі складна піша:
Што харошы сем'янін,
Што фігурай выйшаў.
Жонка здрадзіла яму –
Адышоў без бою.
Ні капейкі, ні рубля
Не забраў з сабою.
«Без фінансаў толькі ў сне
Нашай быць сустрэчы.
Каб ты мне дапамагла,
Дык кахаў бы вечна!»
Як тут не паспачуваць?
Гэта ж толькі грошы!
І кабета ўжо стаіць
На вясковай пошце.
Пару соцень перавод –
Вось гарант спаткання.
Абяцаў прыехаць ён
Паслязаўтра раннем...

Той гісторыі фінал
Лёгка нам прадбачыць.
Ды здаецца, што ў мяне
Будзе ўсё іначай.
Часам круціцца раман
Ў свеце віртуальным,
А за ім – адзін падман,
І, на жаль, рэальны.

**Настасся САМЧАНКА**






Няхай цяпер за акном сцюдзёная зіма, ды азірнуцца не паспееш, як прыйдзе сонечнае лета. А з ім — і цудоўная пара адпачынкаў. Чаму б не памарыць пра іх ужо ўзімку? Якраз да наступнай зімы і паспеем расказаць вам, шаноўныя чытачы, як любяць адпачываць розныя знакі Задыяка.

## Казярог

Любіць адпачываць прыгожа.

Згодны патраціць салідныя грошы на адпачынак з камфортам, з абслугоўваннем па вышэйшым класе, з бездакорным выкананнем усіх умоў і пажаданняў кліента.






16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 1 (1564), 2019 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 09.01.2019. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,25. Тыраж 634 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.

# УСЯГО ПАТРОХУ!



Аляксандр ПЯТРОЎ.




Алег ГУЦОЛ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.



Пётр КОЗІЧ.



Анастасія СКАРКО.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.

# З НОВЫМ ГОДАМ!

2019

Сяргей ВОЛКАЎ.

Сум развеяць дапаможа
Верны твой прыяцель — «Вожык».
Дорыць ён усмешак нізку,
Падтрымай яго падпіскай!

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.

**«Вожык» прыйдзе кожнаму жыхару Беларусі!**



**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2019 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе**:
індэкс 74844, цана 5,00 рублёў,
індэкс 01380, цана 4,10 рублёў,
індэкс 748442, цана 14,30 рублёў,
індэкс 01381, цана 11,50 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ – па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

